www.nv-online.info

№ 38 (4085)

20 мая 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля





БЕЗ РЕТУШИ



Валерий КАРБАЛЕВИЧ, специально для «Народной Воли»

## Сеанс психотерапии
### *в виде политического пузыря*

По всей Беларуси идет активная подготовка к так называемому Всебелорусскому народному собранию. Зачем этот политический пузырь нужен А.Лукашенко сегодня?

Понятно, почему он проводил такие форумы прежде перед президентскими выборами. Это был способ политической мобилизации электората. Но очередная президентская кампания закончилась полгода назад.

Как на мой взгляд, то вреда от этого собрания для Лукашенко больше, чем пользы. Во-первых, потому, что ему нечем отчитываться перед народом за прошедшую пятилетку.

Во-вторых, сейчас существует большое недовольство населения властью. По некоторым социологическим замерам, только 13% верят, что положение в экономике страны в ближайшие годы улучшится. Никакого плана выхода из кризиса, кроме того, что надо подождать и все само собой образуется и рассосется, у А.Лукашенко, похоже, нет, что-то оптимистичное сказать людям он вряд ли сможет. И вся процедура подготовки форума, и само его проведение будет проходить на фоне такого разрыва между реальностью и риторикой, какого не было никогда прежде. Поэтому, по нормальной логике, не следовало бы в такой напряженной социальной ситуации лишний раз раздражать людей.

Сама подготовка Всебелорусского народного собрания, ход его проведения означает определенную политизацию общества. В условиях кризиса это для власти опасно. Ибо нынешний режим держится не столько на поддержке населения, сколько на равнодушии, аполитичности, обреченности, пофигизме большинства населения. А политизация невольно заставляет людей задумываться о причинах и виновниках своего нерадостного положения.

И тем не менее А.Лукашенко решил проводить сход. Зачем? Здесь все дело в психологии одного человека. Мне кажется, Александр Григорьевич живет в своей особой реальности, которая далеко не во всем совпадает с той, в которой существует страна.

Безусловно, здесь есть дань традиции, сила инерции. В СССР съезды КПСС принимали пятилетние планы. А.Лукашенко прочно зацепился за власть в атмосфере ностальгии по советскому прошлому. И поэтому он не хочет менять не только традиции, но и вообще созданную им систему. Хотя вот же отказался от такой традиции, как «Дожинки».

Но главная причина все же, на мой взгляд, в другом. А.Лукашенко, видимо, считает, что если он не проведет масштабное собрание, то это будет проявление слабости. Мол, вот всегда проводил, а теперь испугался. Политизированная публика подумает: значит, «бацька» сдулся, он уже не тот.

Поэтому надо всем продемонстрировать, что он сильный, ничего не боится, даже в трудное время держит удар. Это как военный парад в Москве 7 ноября 1941 года, когда фашисты стояли под городом. Проведением ВНС президент подает сигнал всей номенклатуре: я не сдаюсь, все нормально, ничего плохого не происходит. Это сеанс психотерапии. Здесь важен сам факт, а не содержание того, что там будет происходить, кто, что будет говорить.

Причем прежде всего это сеанс самогипноза, терапии для самого себя. Выступая перед своими сторонниками (а на собрании будут только такие), А.Лукашенко как бы подзаряжается. Вспомним, как он по 4–6 часов ежегодно выступает перед российскими журналистами, которые его бесконечно хвалят. А теперь в условиях кризиса это для него особенно важно.

Кроме того, на наших глазах происходит крах белорусской социальной модели, который скоро станет очевидным для большинства белорусов. Это означает, что страна находится накануне не только социально-экономического, но и идеологического, психологического кризиса, похожего на тот, который был в начале 1990-х годов, после распада СССР. Те символы веры, в которые свято верили люди, голосовавшие 20 лет за А.Лукашенко, распадаются на наших глазах. Возникает опасный идеологический и психологический вакуум.

Так вот сеанс психотерапии в виде так называемого Всебелорусского народного собрания должен, по представлению его инициатора, заполнить этот вакуум. Сама эта процедура обращена к иррациональному в человеке. Дескать, верьте мне, люди, все под контролем, *усё будзе добра.* В трудную минуту вокруг кого еще объединяться, как не вокруг государства? А какой главный государственный институт у нас? Правильно, институт президента. Это центр консолидации. До сих пор это работало. Возможно, часть населения, которое не привыкло думать, этот форум действительно успокоит.

Надо иметь в виду такую особенность политического стиля А.Лукашенко, как отрицание наличия кричащих проблем. Вспомним, как во время финансового кризиса 2011 года, когда из обменников исчезла валюта, вся страна стояла на ушах, он несколько месяцев делал вид, что ничего не происходит.

Или возьмем недавнее выступление А.Лукашенко с Посланием в Национальном собрании. Фактически он ушел от обсуждения реальных проблем. В Послании, можно сказать, даже не прозвучало признания самого факта наличия социально-экономического кризиса. Хотя, согласно мартовскому опросу НИСЭПИ (зарегистрирован в Вильнюсе), 88% населения считают, что белорусская экономика находится в кризисе.

Отвечая на вопросы депутатов, А.Лукашенко заявил: «Недавно мне назвали одну цифру: за пятилетку реальные доходы населения больше чем на треть у нас выросли – 35%». Информация к размышлению. В декабре 2010 года средняя заплата в Беларуси составляла в эквиваленте 530 долларов, а на 1 марта 2016 года она сократилась до 307 долларов. Может быть, президент и население живут в разных странах?

Это как маленькие дети закрывают глаза и думают, что их никто не видит.

ОФИЦИАЛЬНО

## Больше времени на пациента у врача не будет



Об этом заявил вчера во время онлайн-конференции на сайте БЕЛТА министр здравоохранения **Василий Жарко.**

В Минздраве знают, что одна из главных претензий белорусов к отечественному здравоохранению – это очереди и то, что врачу отводится мало времени на прием одного пациента. Однако пересматриваться нормы времени на прием одного пациента в сторону увеличения не будут.

– Сейчас на первичный прием, например, у участкового врача-терапевта, врача общей практики, врача-эндокринолога отводится 15 минут, врача-стоматолога – 30 минут, врача-инфекциониста – 15 минут, – пояснил Василий Жарко. – Профилактический осмотр врачом общей практики занимает 10 минут, оториноларингологом – 7 минут, кардиологом – 10 минут. Врачебная консультация на уровне центральной районной больницы или межрайонных городских медицинских центров, например, у врача-нейрохирурга занимает 20 минут, у невролога – 15 минут. На врачебную консультацию на областном или республиканском уровне, которая требует больше времени для анализа имеющихся диагностических заключений и результатов обследований пациента, занимает у врача-терапевта 20 минут, у нейрохирурга – 30 минут, у кардиолога – 24 минуты, у стоматолога – 40 минут. Эти временные рамки не жесткие и могут корректироваться при необходимости. Каждому пациенту в зависимости от его самочувствия врач уделяет необходимое количество времени. Планируемое завершение к 2020 году информатизации амбулаторно-поликлинических учреждений, применение компьютерной техники каждым врачом, ведущим прием, внедрение электронной карты пациента и электронного рецепта позволят высвободить дополнительное время для непосредственного общения врача с пациентом.

ДЫЯЛОГ: ЗША–БЕЛАРУСЬ

## Злучаныя Штаты Амерыкі ўсё яшчэ спадзяюцца…

У Мінску адбыўся трэці раўнд беларуска-амерыканскага дыялогу па правах чалавека. Папярэднія раўнды праходзілі летась у Вашынгтоне.

17 мая намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША па справах Еўропы і Еўразіі **Брыджыт БРЫНК** і яе калега, намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША па пытаннях дэмакратыі, правоў чалавека і працы **Роберт БЯРШЧЫНСКІ** правялі сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай улады, у тым ліку з міністрам замежных спраў **Уладзімірам МАКЕЕМ**, кіраўніком ЦВК **Лідзіяй ЯРМОШЫНАЙ**, а таксама з лідарамі апазіцыйных партый, грамадзянскай супольнасці і праваабаронцамі. “*На ўсіх сустрэчах мы падкрэслівалі, што ЗША выступаюць у падтрымку незалежнасці Беларусі і яе шляху да большага росквіту*”, – сказала намеснік памочніка дзяржсакратара 18 мая на сустрэчы з журналістамі па выніках візіту ў Мінск.

Брыджыт Брынк заявіла, што Злучаныя Штаты Амерыкі ў чарговы раз заклікаюць беларускія ўлады да паляпшэння сітуацыі ў сферы дэмакратыі і правоў чалавека. Яна нагадала, што летась у адказ на вызваленне беларускіх палітвязняў ЗША прыпынілі санкцыі ў дачыненні да дзевяці беларускіх прадпрыемстваў, а ў красавіку 2016 года працягнулі гэтае рашэнне яшчэ на паўгода. “*Гэтая мера носіць абмежавальны характар і залежыць ад далейшага развіцця падзей*”, – сказала спадарыня Брынк.

Яна нагадала, што БДІПЧ зрабіла досыць шмат рэкамендацый па паляпшэнні выбарчага працэсу ў Беларусі – для забеспячэння празрыстасці падліку галасоў і фарміравання складу выбарчых камісій з удзелам больш шырокага прадстаўніцтва. Брыджыт Брынк таксама пазітыўна ацаніла ўчарашнюю заяву Лідзіі Ярмошынай пра тое, што некаторыя рэкамендацыі БДІПЧ будуць улічаны. “*Мы разглядаем гэта як станоўчы крок. Ды і пасля выбараў мы будзем глядзець, наколькі гэтыя рэкамендацыі былі ўвасоблены ў жыццё. Але мы вітаем тую сур’ёзнасць, з якой гэтыя рэкамендацыі былі тут успрыняты*”, – сказала яна.

Тэма выбараў была асноўнай падчас дыялогу. Нагадаем, што да дня іх правядзення – 11 верасня застаецца не так шмат часу. Захаваюцца санкцыі ці не, паводле слоў намесніка памочніка дзяржсакратара ЗША, будзе залежаць і ад таго, якую ацэнку ім дасць БДІПЧ.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СКАНДАЛ



## Яраслаў Берніковіч выкрывае Таццяну Караткевіч



Былы актывіст кампаніі «Гавары праўду!» сцвярджае, што Караткевіч не сабрала 100 тысяч подпісаў, неабходных для рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты на выбарах 2015 года

Падчас выбараў Берніковіч быў членам кампаніі «Гавары праўду!» і каардынаваў збор подпісаў у Мінску. 19 мая на сваёй старонцы ў «Фэйсбуку» ён напісаў, што ў сталіцы за Караткевіч было сабрана не 54.812 подпісаў, як паведамляў Цэнтрвыбаркам, а 14.603. Такім чынам, робіць выснову Берніковіч, у маштабах краіны Караткевіч набрала менш за 50 тысяч подпісаў (паводле дадзеных ЦВК – 107.299).

У каментарыі БелаПАН Берніковіч заявіў, што подпісы за Караткевіч былі сфальсіфікаваны на стадыі іх падачы ў Цэнтрвыбаркам. «Я не эксперт, але я ведаў, колькі подпісаў было сабрана на самай справе», – сцвярджае ён.

Паводле слоў Берніковіча, ён не мог выдаваць гэтую інфармацыю раней, паколькі быў звязаны пэўнымі абавязацельствамі, працуючы ў кампаніі «Гавары праўду!». Цяпер сітуацыя змянілася – Берніковіч ужо не член «Гавары праўду!».

Берніковіч не баіцца, што на яго могуць падаць у суд за недакладную інфармацыю. «У мяне ёсць сведкі», – кажа ён.

Таццяна Караткевіч, са свайго боку, сцвярджае, што не падавала ў Цэнтрвыбаркам сфальсіфікаваныя подпісы. З’яўленне падобнай інфармацыі яна звязвае з тым, што «апазіцыя працягвае свае брудныя “подковерные” гульні».

«Наперадзе парламенцкая кампанія, дзе кожнаму з нас, кожнай арганізацыі патрэбна мабілізацыя, у тым ліку дэмакратычнай супольнасці для таго, каб сабраць больш подпісаў, больш назіральнікаў, актывізаваць людзей на ўдзел у працы камісій, у агітацыі і гэтак далей. І такія крокі з боку людзей, якія знаходзяцца ўнутры дэмакратычнай супольнасці, толькі памяншаюць давер да нас у цэлым. Гэта разбуральна», – сказала Караткевіч у каментарыі БелаПАН.

Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік назваў Берніковіча «непрыстойным чалавекам». «Дзе сумленне ў гэтага палітыка? Спачатку ён подпісы зрабіў, здаўшы, на яго погляд, несапраўдныя подпісы, а потым другі раз подласць здзейсніў, калі парушыў сваё абяцанне не выдаваць тайну. Проста гэта непрыстойны чалавек, гэта мае меркаванне як грамадзяніна», – заявіў Лазавік.

Паводле яго слоў, з подпісамі Караткевіч праблем не было. Пры гэтым ён растлумачыў, што сама ЦВК сабраныя подпісы не правярае – гэта робяць тэрытарыяльныя камісіі. «З агульнага пачка падпісных лістоў метадам выпадковай выбаркі бяруцца асобныя лісты, каб было 15% подпісаў. Гэтыя спецыяльна адабраныя лісты правяраюцца. Калі ў гэтай выпадковай выбарцы несапраўднымі аказалася больш за 15% подпісаў, то кандыдат не рэгіструецца. Калі гэты спадар сказаў праўду – значыць, ім пашанцавала», – адзначыў сакратар ЦВК.

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ, БелаПАН.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

## Ёсць вакансіі?

*«Народная Воля» звярнулася на некаторыя беларускія прадпрыемствы і пацікавілася свабоднымі працоўнымі месцамі.*

**Мікалай ГАРДЗЕЕНКА,**
**намеснік генеральнага дырэктара па кадрах і рэжыме ААТ «Віцебскія дываны»:**

– Свабодных вакансій няма. У нас працуе 1,5 тысячы чалавек, і афіцыйных скарачэнняў на прадпрыемстве не было. Хтосьці звальняўся па ўласным жаданні, хтосьці сыходзіў на пенсію.

Цяпер (у летні час) ідзе спад продажаў, а восенню і зімой попыт узрастае. Працуем па паўнавартасным графіку, сярэдні заробак складае 6,5 мільёна беларускіх рублёў.

**Барыс ЧЭЧКА,**
**намеснік дырэктара ААТ «Птушкафабрыка Гарадок»:**

– Наш штат работнікаў укамплектаваны, і на дадзены момант патрабуецца толькі аграном. Зарплату выплачваем своечасова, людзі працуюць, калі хтосьці сыходзіць, дык месца доўга не пустуе. Напрыклад, аграном будзе зарабляць 4,5 мільёна, у сярэднім зарплата на прадпрыемстве 4,6 мільёна беларускіх рублёў.

**Інга РАДЗЕВІЧ,**
**намеснік дырэктара па ідэалогіі, працы і кадравых пытаннях СЗАТ «Магілёўскі вагонабудаўнічы завод»:**

– Усе вакансіі, якія адкрыты, размяшчаюцца на біржы працы. Цяпер у нас праводзіцца аптымізацыя колькасці, і свабодных вакансій няма. Людзі сыходзяць толькі па ўласным жаданні, на пенсію. За апошні месяц сярэдняя зарплата склала 5,6 мільёна беларускіх рублёў. Прастояў і скарочанага графіка ў нас няма.

**Валянціна ЗАРАНІК,**
**намеснік генеральнага дырэктара па ідэалогіі, кадрах і побыце ААТ «Камінтэрн»:**

– Наша прадпрыемства швейнай накіраванасці, таму ёсць адкрытыя вакансіі швачак. Людзі патрэбны, і, зразумела, ніякіх скарачэнняў няма. На прадпрыемстве пяцідзённы працоўны тыдзень. Заробак швачак ад 3 мільёнаў.

**Кацярына ЖОДЗЬ,**
**начальнік аддзела кадраў ААТ «Аршанскі мясакансервавы камбінат»:**

– На наш камбінат патрабуюцца прадстаўнікі спецыялізаваных прафесій, напрыклад, інжынер-хімік. Вакансій рабочых на сённяшні дзень няма. Скарачэнне кадраў наша прадпрыемства не практыкуе.

**Наталля СТАСЬКО,**
**аддзел кадраў ААТ «Гродзенскі лікёра-гарэлачны завод»:**

– На сённяшні дзень нам патрабуецца эканаміст. Адкрытых вакансій для працоўных няма. Вялікай цякучкі не назіраецца, і калі з’яўляюцца вольныя месцы, то ў асноўным з-за сыходу на пенсію. Вось вакансія эканаміста так і ўтварылася. Графік працы ў нас паўнавартасны, аб заробках я казаць не магу – камерцыйная тайна.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

РУБАМ!

## Тамара Сяргей не здаецца!

*«Яны хацелі б усё забыць і ніколі не ўзгадваць пра гэты інцыдэнт, — кажа праваабаронца. — Але я не даю ім магчымасці расслабіцца. І буду працягваць барацьбу за свае правы і прайду ўсе прыступкі, якія прадугледжаны нашым заканадаўствам для абароны свайго добрага іміджу».*



Супрацьстаянне Тамары Сяргей з праваахоўнікамі працягваецца ўжо больш за паўгода. І «Народная Воля» падрабязна расказвае літаральна аб кожным кроку праваабаронцы.

Пачалося ўсё 6 лістапада 2015 года, у дзень інаўгурацыі Лукашэнкі, калі Тамару Сяргей затрымалі на чыгуначным вакзале Мінска літаральна праз некалькі хвілін пасля таго, як яна туды зайшла. На вакзале была прызначана сустрэча Сяргей з актывістамі грамадскай ініцыятывы “Супраць беззаконнасці ў пракуратуры і судах”, адкуль яны ўсе разам мусілі рушыць да Палаца Незалежнасці, дзе праходзіла інаўгурацыя. Хацелі калі не сустрэцца з самім Лукашэнкам, дык хаця б расцягнуць плакаты на шляху яго перасоўвання.

Міліцыянеры – падпалкоўнік **Сяргей Гаркавы** і старшы прапаршчык **Сяргей Махнач**, якія затрымлівалі Сяргей, патлумачылі, што паступіла заява ад грамадзянкі Тарасавай, што Тамара адкрыта скрала ў яе 300 долараў каля абменнага пункта на трэцім паверсе вакзала. Праваабаронца на той паверх нават і не падымалася, але пярэчыць не стала і падпарадкавалася загаду міліцыянераў прайсці з імі. Вядома ж, ніякіх грошай, тым больш 300 долараў, у праваабаронцы не знайшлі. Але пратрымалі ў пастарунку 4 (!) гадзіны. Тамара бачыла і “пацярпелую”, якая, паводле яе слоў, была падобная да чалавека, залежнага ад наркотыкаў ці алкаголю. Крымінальную справу супраць Сяргей не завялі, міліцыянеры сказалі, што будуць праводзіць праверку. Але ніякіх адказаў ад іх яна не атрымала.

Каб справа ўсё ж такі зрушылася з мёртвай кропкі, Сяргей пачала пісаць скаргі аб незаконным затрыманні міністру ўнутраных спраў **Ігару Шуневічу** і генпракурору **Аляксандру Канюку.** Яе заява была накіравана на разгляд транспартнаму пракурору Мінска **Мікалаю Кротаву,** які ў сваю чаргу перанакіраваў яе ў Мінскі аддзел унутраных спраў на транспарце. Па сутнасці, займацца праверкай па яе лістах даручалі тым, хто яе затрымліваў. Не дзіва, што правяраючыя ў дзеяннях супрацоўнікаў унутраных спраў і ў дзеяннях грамадзянкі Тарасавай парушэнняў заканадаўства не знаходзілі. Апошнім адрасатам, якому напісала праваабаронца, быў намеснік міністра – начальнік міліцыі грамадскай бяспекі МУС **Мікалай Мельчанка.** Але і намеснік міністра палічыў скаргі Тамары Сяргей неабгрунтаванымі, таму што, на яго погляд, “*у іх не ўтрымліваюцца новыя абставіны*”, а па фактах, названых ёю, ужо праведзена праверка і дадзены адказ. “*Перапіска з вамі па факце вашага затрымання 06.11.2015 супрацоўнікамі мінскага АУСТ і азнаямлення з матэрыяламі праверкі спыняюцца*”, – зазначыў Мікалай Мельчанка.

Зразумела, што пагадзіцца з такой высновай Тамара Сяргей не магла. 12 мая яна падала скаргу ў суд Цэнтральнага раёна Мінска на дзеянні МУС.

– На што спадзяюся? – кажа праваабаронца. – Хацелася б, канешне, верыць, што суд задаволіць мае патрабаванні і абавяжа МУС Рэспублікі Беларусь правесці праверку законнасці дзеянняў падпалкоўніка Гаркавага і старшага прапаршчыка Махнача, якія праводзілі маё затрыманне 6 лістапада 2015 года, а таксама абавяжа МУС даць мне магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі праверкі па заяве Т.Н.Тарасавай. Бо ўсе адказы, якія я атрымлівала, пачынаючы ад кіраўнікоў аддзела на транспарце і заканчваючы намеснікам міністра МУС Мельчанкі, складаюцца літаральна з адной фразы: “У дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі парушэнняў закона не выяўлена”. А на ўсе тыя факты, якія я ўказваю, яны нават не звяртаюць увагі. Больш за тое, калі я звярталася да Мельчанкі, то асобна падавала заяву аб правядзенні праверкі і ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да грамадзянкі Тарасавай, якая ўзвяла на мяне паклёп. 23 сакавіка я атрымала паведамленне з МУС, што мая заява пераслана ў ГУУС Мінгарвыканкама. Але да гэтага часу ніякага афіцыйнага адказу з ГУУС не атрымала. Гэта нахабнае парушэнне закона, бо, калі нават выказаць здагадку, што яны займаюцца дадатковай праверкай, вышукам грамадзянкі Тарасавай, мне ўсё роўна абавязаны пра гэта паведаміць. Але яны 2 месяцы маўчаць! І, мабыць, пакуль я зноў шчыльна не пачну займацца гэтым пытаннем, адказу не атрымаю.

**– Тамара, а ці не стаміліся вы, умоўна кажучы, біцца аб сцяну, якую паставіла перад вамі наша міліцыя?**

– Думаю, яны хацелі б усё забыць і ніколі не ўзгадваць пра гэты інцыдэнт. Але я не даю ім магчымасці расслабіцца. І буду працягваць барацьбу за свае правы і прайду ўсе прыступкі, якія прадугледжаны заканадаўствам для абароны свайго добрага іміджу. Таму што ў наступны раз яны падкінуць мне ў сумачку наркотык і, нават не маючы адбіткаў маіх пальцаў, прыцягнуць да адказнасці... Раблю я гэта не толькі для сябе. Улічваючы, што я юрыст і праваабаронца, я раблю гэта для ўсіх грамадзян краіны. Я хачу паказаць, якімі метадамі можна абараняцца. І калі ў мяне гэта не атрымаецца, бо мая справа мае палітычны падтэкст, гэта не значыць, што не атрымаецца ў кагосьці іншага!

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

